**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 13 (834) 31 сакавіка 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Канікулы!!! Вандроўка мінскіх беларускамоўных школьнікаў у Глыбокае. Апавядае Юрый Калбасіч, экскурсавод глыбоцкага Кафедральнага сабора.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



ISSN 2077-8023



**Полацкі раён**

# Рынкі крыху ажылі, пакупнікі – не

■ Чэслаў Якубовіч.

**Як і чакалася, пасля некалькіх месяцаў прастою па ўсёй краіне больш ажыўлена стала на рынках, куды вярнулася працаваць значная частка прадпрымальнікаў.**

Узрадавалася з гэтай нагоды і дырэкцыя аднаго з самых папулярных у абласных цэнтры УП “Полацкі рынак”. Яго дырэктар Марыя Драздова паведаміла журналістам, што з існуючых 620 гандлёвых месц аднавілі сваю працу прадаўцы 191 месца пад навесамі. Толькі 40 чалавек, якія гандлявалі адзеннем і абуткам, спынілі дагаворы арэнды і зышлі адсюль назаўсёды. У сваю чаргу на іх месцы прыйшлі нечакана гандляры з буйных гандлёвых цэнтраў горада. Аднак і раней пачатак каляндарнай вясны быў не самым спрыяльным для гандлю нехарчовымі сезоннымі таварамі. Пакупнікоў часта адпужвае ад паходу на рынкі няўстойлівае надвор’е, яны адкладваюць набыццё сезонных тавараў летняга асартыменту. Аб’ядноўваюць жа ўсіх зараз эканамічныя цяжкасці: людзі прыкметна збяднелі і ў іх стала значна меней грошай на пакупкі пасля падаражэння камунальных і іншых паслуг. У выніку прадаўцы на рынках, здараецца, за дзень працы нічога не прадаюць, ажывае іх гандаль і павышаецца выручка толькі па выхадных. Як і ў іншых месцах, прадпрымальнікі баяцца праверак, штрафаў, паміж імі ўзнікаюць супярэчнасці з-за існуючай розніцы ў цэнах паміж беларускімі вырабамі і таварамі, набытымі ў Расіі на карысць апошніх. У цэлым па вобласці цяпер падобны малюнак, падаражэўшыя тавары з сертыфікатамі распрадаюцца дрэнна.

**Шумілінскі раён**

# Наваселле азмрочыла здарэнне

■ Кастусь Александровіч

**У паўсядзённым жыцці вельмі часта чамусьці радасныя моманты змяняюцца потым рознымі непрыемнасцямі.**

Вось і ў Шумілінскім раёне многія ўзрадаваліся, калі пасля капітальнага рамонту справіла наваселле абноўленае непазнавальна тэрапеўтычнае аддзяленне райбальніцы. Яе амаль што аварыйны будынак пачалі рэканструіраваць яшчэ ў 2013 годзе, калі замянілі дах і столь. Затым прадпрыемства “Вітмедбуд” прыступіла да ўнутраных работ, якіх было шмат, а сродкаў не хапала. У выніку медыкам істотна дапамог абласны бюджэт, значны ўклад унеслі многія мясцовыя прадпрыемствы і арганізацыі, а таксама спонсары з ліку нераўнадушных землякоў. Мясцовыя прадпрымальнікі талакой набылі для бальніцы новую сантэхніку, а абласная арганізацыя арганізацыі Чырвонага Крыжа дапамагла пасцельнай бялізнай і коўдрамі для пацыентаў. У выніку будынак аддзялення плошчай 600 кв. метраў на 47 ложкаў са сталовай і працэдурнай стаў адпавядаць сучасным патрабаванням. За год у камфортных умовах тут будуць лячыць да 1,5 тысячы жыхароў раёна. Аднак толькі паспелі справіць медыкі наваселле, як на мясцовым керамічным заводзе ў Обалі зафіксавалі выпадак вытворчага траўматызму з цяжкімі наступствамі. Пры выкананні рамонтных работ трое рабочых ТАА “Прамэнергабуд” ва ўзросце 40, 35 і 32 гадоў упалі раніцай з вялікай вышыні і атрымалі цяжкія раненні і пераломы. Следчы камітэт адразу ж пачаў праверку абставін узнікнення здарэння, апытанне сведкаў, вывучэнне дакументацыі і прызначыў шэраг неабходных судовых экспертыз.

**Пастаўскі раён**

# На зборы ў райцэнтр

■ Станіслаў Раманчук.

**Эканамічны крызіс закрануў і айчынны спорт, толькі лічаныя багатыя беларускія футбольныя клубы эліты рыхтаваліся да новага сезона за мяжой.**

Галоўная ж каманда вобласці, ФК “Віцебск”, праўда, адзін з падрыхтоўчых вучэбна-трэніровачных збораў правяла ў Смаленску, а астатні час працавала да старту ў чэмпіянаце Беларусі ў Паставах.

Сюды віцябляне прыехалі з заснежанага абласнога цэнтра яшчэ ў лютым, калі даведаліся, што там снегу няма і ўсталявалася сапраўднае веснавое надвор’е. Умовы падрыхтоўкі на Пастаўшчыне, сапраўды, адны з лепшых у краіне. Каманда жыла ў трохзоркавай гасцініцы, харчавалася там жа ва ўтульным кафэ, а трэніроўкі яна праводзіла на штучным газоне стадыёна ПМЦ, на гарадскім стадыёне, у трэнажорнай зале ФАКа з басейнам. У адрозненне ад іншых, віцебскі клуб не мае фінансавых праблем і непагашаных даўгоў, спакойна камплектаваўся. Каманду ўзначаліў яшчэ летась вопытны і зладжаны трэнерскі штаб на чале з галоўным трэнерам, майстрам спорту Сяргеем Ясінскім, які, дарэчы, каля пяці гадоў узначальваў у Паставах футбольную акадэмію. Таму і свой асноўны збор перад сезонам ФК “Віцебск” правёў у гэтым райцэнтры, зрабіў стаўку на выхаванцаў віцебскага і пастаўскага футбола. У асноўным складзе каманды заняты цяпер пяцёра экс-пастаўчан, за дублёраў выступаюць яшчэ шасцёра выхаванцаў былой футбольнай акадэміі ПМЦ. У райцэнтры нядрэнная спартыўная база і раней тут штогод праводзілі зборы валейбольныя клубы краіны, маладзёжная зборная Беларусі па валейболе.

# Аб самым надзённым

## ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ ПРЫМУШАЮЦЬ УЛАДЫ БЕЛАРУСІ ПАЧЫНАЦЬ НЕПАПУЛЯРНАЕ ПАЭТАПНАЕ ПАВЫШЭННЕ ПЕНСІЙНАГА ЎЗРОСТУ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Не сакрэт, што ў Беларусі кіраўніцтва краіны прымушае ісці на непапулярныя меры, асабліва для людзей старэйшых пакаленняў, няпростая сітуацыя ў эканоміцы і складаныя дэмаграфічныя працэсы**

Тое, што найбольш актыўна абмяркоўвалі беларусы апошнім часам, падобна становіцца рэальнасцю. Пасля нядаўна праведзенай нарады ў кіраўніка дзяржавы мы даведаліся аб тым, што ўжо з 1 студзеня наступнага 2017 года ў Беларусі прапанавана пачаць паэтапнае павышэнне пенсійнага ўзросту. Дагэтуль, праўда, грамадству паабяцалі правесці шырокае абмеркаванне значнай сацыяльнай праблемы, але не ўдакладнілі ў якой менавіта форме. А вось А. Лукашэнка прама сказаў, што жыццё прымусіла вырашаць гэта пытанне, павышэнне ўзросту выхаду на заслужаны адпачынак закране ўсіх і будзе вырашацца па справядлівасці.

Адразу пасля заканчэння нарады на дзяржаўным узроўні ў Мінску ў галіновым міністэрстве працы і сацыяльнай абароны расказалі аб трох магчымых варыянтах пераўтварэнняў дзеючай пенсійнай сістэмы. Самым эканамічна прымальным назвалі ўзрост выхаду на пенсію ў 60 гадоў для жанчын, а для мужчын яшчэ на 5 гадоў пазней. З улікам няпростых дэмаграфічных працэсаў два іншыя варыянты прадугледжваюць узросты 60 і 63, таксама 58 і 63 гады адпаведна. Павышэнне пенсійнага ўзросту закране адназначна і людзей у пагонах, болей здаровыя мужыкі ў 45 гадоў ужо не будуць звальняцца са службы і станавіцца пенсіянерамі.

Беларускі лідар А. Лукашэнка таксама паведаміў, што ён ужо некалькі разоў абмяркоўваў гэту праблему з калегамі-саюзнікамі У. Пуціным і Н. Назарбаевым, дзе, як і мы, занепакоены старэннем насельніцтва і змяншэннем адлічэнняў у пенсійныя фонды. Увогуле ж першымі ў свеце пачалі плаціць пенсіі немцы напрыканцы XIX стагоддзя. Але ўзрост для атрымання ў Германіі на той час быў 70 гадоў, нямногія дажывалі да такой пары. Дарэчы, і зараз у сучасных немцаў пенсійны ўзрост высокі – 67 гадоў для абодвух палоў. А вось дзеючая ў нас пенсійная сістэма вядзе пачатак з даваеннага СССР, калі яе ўвялі ў далёкім 1932 годзе з дагэтуль дзеючым у суверэннай Беларусі тэрмінам выхаду на пенсію ў 55-60 гадоў.

За сталінскім часам людзі жылі значна меней, чым цяпер, у сярэднім па 45 гадоў і таму выдаткі на дапамогу ў старасці для дзяржавы былі не такія і значныя. Не сакрэт, што многія дзяржавы кантыненту і нашы суседзі плануюць у бліжэйшы час таксама павысіць пенсійны ўзрост. У прыватнасці, літоўцы і рускія да 65 гадоў для мужчын і жанчын адпаведна. Палякі, у якіх выходзяць паненкі на адпачынак у 60 год, а паны ў 65, хацелі давесці гэты паказчык да 67 гадоў, але іх новы прэзідэнт і ўрад паабяцалі нацыі не крыўдзіць старэйшыя пакаленні.

Не сакрэт, што ў Беларусі кіраўніцтва краіны прымушае ісці на непапулярныя меры, асабліва для людзей старэйшых пакаленняў, няпростая сітуацыя ў эканоміцы і складаныя дэмаграфічныя працэсы. Як вядома, зараз на 100 працуючых прыходзіцца 61 пенсіянер, а праз 5 гадоў такія суадносіны будуць ужо 100 на 66, далей яшчэ горш. У пачатку вясны, да прыкладу, 175 буйных айчынных прадпрыемстваў і арганізацый працавалі ў рэжыме няпоўнай працоўнай занятасці. Заробкі беларусаў падаюць, а то і затрымліваюцца па некалькі месяцаў, як і дзіцячыя дапамогі на вёсцы, а падаткаў і адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Беларусі аўтаматычна становіцца меней.

Вось чаму беларусам нікуды не дзецца ад павышэння пенсійнага ўзросту ўжо ў самы бліжэйшы час. Спецыялісты папярэджваюць, што каб была ўстойлівай беларуская пенсійная сістэма, на кожнага пенсіянера павінна быць не меней як 4 працуючыя работнікі і прадукцыйнасць працы вышэйшая, чым цяпер. Зараз у нашых пенсіянераў пенсіі не вельмі высокія, бо на іх прыходзіцца няшмат эфектыўна працуючых рабочых і служачых. Як яшчэ перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі дасведчаныя эксперты папярэджвалі, што ўлады Беларусі жыццё прымусіць падняць пенсійны ўзрост, так і атрымліваецца. Фармальна ён у нас і так павысіўся раней, паколькі павысілі мінімальны працоўны стаж з абавязковай уплатай страхавых узносаў.

У нашай краіне цяпер налічваецца каля 2,6 млн. пенсіянераў, з іх 643 тысячы працягваюць працаваць. Яшчэ каля 60 тысяч атрымоўваюць сацыяльныя пенсіі, але ў Беларусі зараз не разглядаюць механізм увядзення накапляльнай пенсіі. Пры рэформе пенсійнай сістэмы не збіраюцца ўводзіць іншыя варыянты, акрамя толькі павышэння ўзросту выхаду на пенсію. Па падліках эканамістаў даследчага інстытута Міністэрства эканомікі, калі будзе паволічаны ўсім на 5 гадоў пенсійны ўзрост, то колькасць працаздольнага насельніцтва вырасце на 670 тысяч чалавек і ўзнікае пытанне, ці хопіць усім ім працы, калі многія нашы заводы прастойваюць і на вёсцы стала значна меней вакансій, чым раней?

Цікава, што ў звышдзяржаве Кітаі пенсіі дагэтуль нікому не плоцяць. Там абавязак клапаціцца пра састарэлых ускладзены на іх дзяцей і родных, у выключных выпадках для зусім адзінокіх – на мясцовыя камуны. Аднак мы ж не кітайцы і неўзабаве пачнём прывыкаць да новых рэалій паўсядзённага жыцця, бо паэтапнае павышэнне пенсійнага ўзросту непазбежнае.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 31.03.16 | | | | Пятніца 01.04.16 | | | | Субота 02.04.16 | | | | Нядзеля 03.04.16 | | | | Пан. 04.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +1 | +8 | +3 | +1 | 0 | +5 | +1 | 0 | +1 | +7 | +2 | -1 | 0 | +8 | +3 | -2 | +5 | +12 |
| Ціск | 742 | 741 | 741 | 742 | 745 | 745 | 743 | 743 | 743 | 745 | 747 | 750 | 753 | 755 | 754 | 755 | 756 | 755 | 754 |
| Вецер м/сек | 4 | 5 | 8 | 6 | 5 | 3 | 2 | 3 | 5 | 8 | 9 | 7 | 5 | 5 | 4 | 3 | 1 | 3 | 2 |
| | Ю-З | Ю-З | З | З | З | З | С | С | С | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З | С-З |
| Вільготнасць | 93 | 100 | 65 | 69 | 90 | 100 | 65 | 80 | 92 | 100 | 74 | 63 | 84 | 92 | 45 | 62 | 91 | 100 | 65 |

## Дзень за днём

**У Беларусі прапанавалі з 1 студзеня 2017 года паэтапна павышаць пенсійны ўзрост. У пачатку вясны інфляцыя дасягнула 4,8 %. Нацбанк знізіў стаўку рэфінансавання да 24 % гадавых. А. Лукашэнка абурыўся, што занадта шыкоўна жывуць беларускія энергетыкі. Акцызы на бензін і асобныя віды цыгарэт павялічылі на 50 %. ЦВК Беларусі не будзе мяняць Выбарчы кодэкс да выбараў у парламент. За льготнае жыллё ад калгаса неабходна будзе адпрацаваць не меней 15 гадоў. На працягу 5 гадоў беларускія тэлеканалы могуць перайсці на якасць HD. Апошнія званкі ў школьнікаў сёлета пройдуць 30-31 мая, а выпускныя вечары 10-11 чэрвеня.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прадстаўнік Дзярждэпартамента Д. Кірбі заявіў, што санкцыі супраць Расіі будуць дзейнічаць да таго часу, пакуль яна не спыніць акупацыю і не верне Крым Украіне.

**Англія.** Вядучы эксперт па РФ М. Галеоцці заявіў, што Расія не з'яўляецца вялікай дзяржавай, яе эканоміка саступае ў 2 разы Францыі і ў 14 – ЗША, блеф - моц яе арміі.

**Сірыя.** Прэзідэнт Расіі У. Пуцін нечакана пачаў вывад з краіны асноўных ваенных сіл РФ, аперацыя там запатрабавала 650 мільёнаў долараў расходаў расійскага дзяржаўнага бюджэту.

Бельгія. З-за ваеннага канфлікту ў Данбасе і праблем карупцыі, як заявіў глава Еўракамісіі Жан-Клод Юнкер, Украіна не зможа ўступіць у ЕС і НАТО ў бліжэйшыя 20-25 гадоў.

**Турцыя.** Пасля З-га па ліку буйнога тэракту ў Анкары з гібеллю 37 чалавек і больш сотні параненых прэзідэнт Т. Эрдаган рашуча паабяцаў паставіць тэрарызм на калені.

**М'янма.** Пасля 54 гадоў ваеннай дыктатуры парламент краіны выбраў у прамым эфіры па ТБ прэзідэнтам 70-гадовага дзеяча дэмакратычнай апазіцыі, прафесара Тхіна Чжо.

**Украіна.** Урад краіны, ЕС і ЗША пачалі рыхтаваць санкцыі супраць рускіх чыноўнікаў, якія маюць дачыненне да выкрадання і здзекаў над украінскай лётчыцай Н. Саўчанка.

**Венесуэла.** Прэзідэнт М. Мадура прадоўжыў яшчэ на 60 дзён надзвычайнае эканамічнае становішча ў краіне, дзе ў 2015 годзе рост цэн дасягнуў 180,9 %, вялікі дэфіцыт тавараў.

**Літва.** Прэм'ер-міністр А. Буткявічус пацвердзіў, што краіна не збіраецца купляць электраэнергію з узводзімай у Беларусі АЭС у Астраўцы, спадзяецца і на падтрымку ЕС.

**Германія.** Аўтаканцэрн Porsche выплаціў сваім 15,6 тысячам супрацоўнікам прэмію ў суме па 8900 еўра кожнаму за прадукцыйную працу ў 2015 годзе і за адданасць фірме.

**ЗША.** Пасля допінгавага скандалу ААН прыпыніла супрацоўніцтва з вядучай расійскай тэнісісткай М. Шарапавай у якасці пасла добрай волі, яе адхілілі і ад міжнародных стартаў.

**Польшча.** Міністр абароны Антоні Мацэрэвіч назваў тэрактам авіякатастрофу прэзідэнцкага самалёта Ту-154М у красавіку 2010 года паблізу Смаленска.

**Ізраіль.** Пасля серыі кансультацый урад вырашыў захаваць сваё пасольства ў Мінску, бо ў краіне жыве 130 тысяч чалавек, выхадцаў з Беларусі, расце колькасць рэпатрыянтаў.

**Літва.** Епіскап Віленскі А. Панішкайціс перадаў адзін з сталічных касцёлаў св. Балтрамея беларускай абшчыне, усе Богаслужэнні ў храме будуць праходзіць толькі па-беларуску.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск пацвердзіў, што знакамітая дапамогай бедным людзям у Індыі і ў свеце манахіня Маці Тэрэза будзе далучана да ліку святых у пачатку восені.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Жлобін.** Для інвестараў раней "лакомый кусок" БМЗ, як папярэдзіў вядомы эканаміст Л. Злотнікаў, стаў нецікавым, як і МАЗ, МТЗ, патрэбны таму рэальныя рэформы эканомікі.

**Мінск.** Нельга параўноўваць 60-гадовых мужчын з конямі, як заявіў глава прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, бо ў большасці з іх здароўе ўжо падарванае і зубы такія ж, няма чым есці.

**Дразды.** КДБ Беларусі арыштаваў аднаго з буйнейшых беларускіх бізнесменаў Юрыя Чыжа па падазрэнні ва ўхіленні ад выплат падаткаў у асабліва буйным памеры.

**Гродна.** З-за забароны інтэрнэт-бізнесу алкаголю "Еўраопт" закрыў размеркавальны цэнтр, звольніў больш 100 работнікаў, у Мінску страцілі працу яшчэ больш 500 чалавек.

**Гомель.** З-за істотнага скарачэння аб'ёмаў рэалізацыі прадукцыі ААТ "Гомельхлебпрам" скарацілі працоўныя змены многім рабочым сваіх хлебазаводаў да 2-х гадзін у дзень.

**Мінск.** Арыштам бізнесмена Ю. Чыжа, як заявіла палітолаг В. Абрамава, вырашылі павысіць імідж вышэйшага кіраўніцтва краіны, бо больш няма чаго даць грамадству.

**Брэст.** Прэзідэнт памілаваў экс-сенатара і ўладальніка групы кампаній "Біакам" Андрэя Паўлоўскага пасля кампенсацыі ім прычыненага ўрону ў суме 20 млн. долараў.

**Астравец.** Пасля ўводу ў эксплуатацыю ў 2018 годзе 1-га энергаблока АЭС, як папярэдзіў эксперт У. Нісцюк, узнікне прафіцыт электраэнергіі, але яе не будзе каму прадаваць.

**Мінск.** Былы следчы А. Волчак паведаміў, што каля 2 млрд. USD штогод скрадалі ў краіне прыдворныя бізнесмены, арышт можа чакаць шэраг уладальнікаў асабнякоў у Драздах.

**Магілёў.** У горадзе КДБ Беларусі ўслед за Ю. Чыжом арыштаваў вечарам цэлую групу 15 супрацоўнікаў буйной кампаніі "Серволюкс", яе главу Я. Баскіна - у аэрапорце Мінска.

**Мінск.** Калектыў МАЗа страціў 2 млрд. расійскіх рублёў пасля адмовы мэрыі Екацерынбурга купіць 80 беларускіх аўтобусаў з-за іх частых паломак і няспраўнасцей.

**Рагачоў.** У выніку буйной аварыі на мясцовай каналізацыйнай насоснай станцыі без падачы вады засталіся больш 12 тысяч жыхароў райцэнтра, школа і 3 дзіцячыя сады.

**Бяроза.** З-за няспраўнай вентыляцыі газавага катла ацяплення ў райцэнтры днём атравіліся і загінулі пенсіянерка і 59-гадовы сын, зімой былі здарэнні ў Барысаве, Слуцку.

**Магілёў.** Улады вырашылі закрыць інфекцыйную бальніцу 1960 года пабудовы з састарэлым абсталяваннем, яна пераедзе ў больш новы будынак гарбальніцы № 1.

**Мінск.** Першы намеснік міністра спорту і турызму А. Гагіеў пацвердзіў, што на гульнях Алімпіяды-2016 у Бразіліі зборная Беларусі максімум заваюе ад 10 да 15 медалёў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Адзіныя гранічныя тарыфы на ўсе ЖКП упершыню ўстаноўлены ў Беларусі - Церахаў



■ Кар. БЕЛТА

**Галоўнай навацыяй указа №107 «Аб аплаце жыллёва-камунальных паслуг, што аказваюцца насельніцтву» з'яўляецца ўсталяванне адзіных гранічных тарыфаў на ўсе жыллёва-камунальныя паслугі, заявіў сёння міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Аляксандр Церахаў падчас круглага стала «Плата за ЖКП: новыя тарыфы і падыходы «ў прэс-цэнтры БЕЛТА.**

«Галоўная навацыя ўказа, які падпісаны ўчора, - тое, што ўпершыню ў адным дакуменце сабраны ўсе тарыфы на асноўныя жыллёва-камунальныя паслугі (як субсідаваныя, так і поўныя), якія будуць з'яўляцца абавязковымі для прымянення на ўсёй тэрыторыі краіны. Важна адзначыць, што яны будуць з'яўляцца лімітавымі, гэта значыць вышэй гэтых тарыфаў быць не можа. Такім чынам, мы рэалізавалі патрабаванні кіраўніка дзяржавы, калі ў адзіным дакуменце сабраны ўсе тарыфы і чалавек зможа, кіруючыся гэтым дакументам, пралічыць кошт паслуг», - адзначыў Аляксандр Церахаў. Паводле яго слоў, зніжаны тарыфы на паслугі водазабеспячэння ў 1,7 разы (з Br4765,9 да Br2790 за 1 куб.м), водаадвядзення - больш чым у 2,2 разы (з Br4148,8 да Br1863 за 1 куб.м) . Тарыф на тэхнічнае абслугоўванне ліфта складае Br6 тыс. 911. «Фактычна на тым узроўні, што было ў снежні. Зніжэнне склала ад студзеньскага тарыфу на 30%», - растлумачыў міністр. Ён таксама канстатаваў, што ўказам упершыню зацверджаны тарыф на санітарнае ўтрыманне месцаў агульнага карыстання - Br5 тыс. 300. «Устаноўлены гранічныя нормы пакрыцця выдаткаў на такія паслугі, як асвятленне месцаў агульнага карыстання і электраэнергія на рух ліфтаў - Br3 тыс. 900 і Br2 тыс. 600 на чалавека», - распавёў Аляксандр Церахаў. Таксама, паводле яго слоў, упершыню зацверджаны адзіны гранічны тарыф на тэхнічнае абслугоўванне запорна-перагаворных прылад - Br9 тыс. 100 - для ўсіх арганізацый незалежна ад формы ўласнасці. «Але гэта пры ўмове, калі заключаны ў грамадзян дагавор з абслуговай арганізацыяй, так як гэтая паслуга з'яўляецца дадатковай», - растлумачыў Аляксандр Церахаў. Міністр дадаў, што ўказ №107 - гэта комплексны дакумент, рэалізацыя якога дазволіць адказаць на ўсе пытанні, якія тычацца фармавання кошту комплексу жыллёва-камунальных паслуг. «Працоўная група яшчэ раз ацаніла тарыфы, якія былі прынятыя, выходзячы з магчымасцяў аплаты насельніцтвам жыллёва-камунальных паслуг. У выніку былі знойдзеныя рэзервы для іх зніжэння», - падсумаваў Аляксандр Церахаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Начальнік аддзела Фонда сацабароны І. Яфрэмава пацвердзіла, што ў вобласці ёсць шэраг гаспадарак з даўгамі па ўплаце ўзносаў, у іх будуць праблемы з пенсіямі.

**Орша.** Урад Беларусі вырашыць кампенсаваць з дзяржбюджэту ў 2016 годзе Беларусбанку страты ад прадастаўлення крэдыта мясцоваму льнокамбінату.

**Паставы.** Мясцовае ДРБУ-132 стала адным з пераможцаў тэндару і накіравала частку сваёй тэхнікі і аўтатранспарту на будаўніцтва 2-й кальцавой аўтадарогі вакол Мінска.

**Бягомль.** Глава вобласці М. Шарстнёў азнаёміўся з працай абноўленага дрэваапрацоўчага цэха мясцовага лясгаса з закончаным цыклам перапрацоўкі лесу і на экспарт.

**Віцебск.** Нягледзячы на скарачэнне штату працоўных летась на 10 % і ліквідацыю 12 з 21 былых філіялаў, УП "Віцебскаблгаз" за год пабудаваў яшчэ 243 км газаправодаў.

**Мёры.** Абласны цэнтр маркетынгу і фонд "Рэгіянальнае партнёрства" правялі ў райцэнтры семінар-трэнінг "Пачні сваю справу" для моладзі, якая жадае заняцца бізнесам.

**Браслаў.** Кіраўніцтва раёна загадала райаграсервісу прывесці ў парадак закінутыя пустуючыя памяшканні вытворчай базы, якія мелі вельмі непрывабны знешні выгляд.

**Докшыцы.** Следчыя затрымалі двух маладых хлопцаў з Полаччыны, якія пасля выхаду з турмы абакралі прадпрымальніцу з Бягомля і прагулялі за 3 дні амаль 300 млн. рублёў.

**Віцебск.** Патрыяршы экзарх усяе Беларусі, мітрапаліт Павел назваў агіднымі выпадкі продажу святой вады зімой сёлета вакол шэрагу мясцовых праваслаўных цэркваў.

**Лёзна.** На трасе з Віцебска ля вёскі Вароны мытнікі спынілі расійскую фуру з 16 тонамі польскіх шампіньёнаў без дакументаў, грыбы канфіскаваны ў даход дзяржавы.

**Гарадок.** З дапамогай фоталавушкі міліцыя ў гарпасёлку Езярышча затрымала 48-гадовую беспрацоўную, якая некалькі месяцаў запар абкрадала сваю нямоглую старую суседку.

**Шуміліна.** У верасні запланавалі здаць у эксплуатацыю пасля рэканструкцыі ФАК у райцэнтры з міні-басейнам, сучаснай трэнажорнай залай, цэнтрам аздараўлення.

**Глыбокае.** Меней чым за тыдзень на тэрыторыі раёна адбыліся 2 пажары, у якіх загінулі ноччу трое чалавек у вёсках Воранава і Чарнеўчы, сёлета агонь забраў ужо 5 жыхароў.

**Віцебск.** Міліцыя сумесна з байцамі АМАПа затрымалі 47-гадовага неаднаразова судзімага крымінальнага "аўтарытэта", які пагражаў і вымагаў грошы ў гараджан.

**Паставы.** Да 3-х гадоў турмы пагражае 20-гадоваму гараджаніну, які вырашыў пагандам зарабіць 6 млн. рублёў і замест відэакарты адправіў пакупніку ў Пінск пакет семак.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Глыбоцкім раёне з-за выбуху катла разбураны будынак кацельні




Як паведамляе прэс-служба МНС, 27 сакавіка ў 22.10 паступіла паведамленне аб разрыве ацяпляльнага катла на цвёрдым паліве ў блокавым будынку кацельні на прадпрыемстве ў гарадскім пасёлку Падсвілле.

У выніку абрынуліся сцены і дах кацельні, прыбудаванай да адміністрацыйна-бытавога будынку. Пажар пасля выбуху не ўзнік.

Прычына разрыву катла высвятляецца. Па адной з версій, ёй стала адсутнасць цыркуляцыі вады ў сістэме ацяплення.

***112.by***

# Сярэдняя зарплата бюджэтнікаў за люты павысілася на 2,3 працэнта – Белстат



Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў арганізацыях Беларусі ў студзені-лютым 2016 года склала Br5 млн 307 тыс., у тым ліку ў лютым - Br5 млн 358,4 тыс., што на Br120,7 тыс., або на 2,3 працэнта больш, чым у студзені бягучага года. Такая інфармацыя размешчана на сайце Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

Рэальная заработная плата ў бюджэтных арганізацыях у студзені-лютым гэтага года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года зменшылася на 3,2 працэнта, у лютым 2016 года ў параўнанні са студзенем бягучага года – на 0,6 працэнта.

Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў арганізацый Беларусі (без мікраарганізацый і малых арганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у студзені-лютым бягучага года склала Br6 млн 581 тыс. Сярэдняя зарплата работнікаў у лютым павысілася да Br6 млн 615,7 тыс., што на Br64,2 тыс., або на 1 працэнт больш, чым у студзені 2016 года.

***БелТА.***

# Беларусь атрымала 2 млрд даляраў крэдыту ад ЕФСР

Міністэрства фінансаў Беларусі і Еўразійскі банк развіцця (кіраўнік сродкамі Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця) падпісалі дамову аб падаванні Мінску крэдыту ў памеры 2 млрд даляраў. Дамова была падпісаная 25 сакавіка, а абвешчана аб гэтым было 28 сакавіка.

Першы транш у памеры 500 млн даляраў павінен паступіць на рахункі мінфіна РБ у найбліжэйшыя дні.

"Крэдыт падтрымае праграму рэформаў урада і Нацыянальнага банка Беларусі, якая складаецца з двух буйных блокаў мер эканамічнай палітыкі – стварэнне макраэканамічных перадумоў эканамічнага росту і правядзенне рынкавых рэформаў, накіраваных на забеспячэнне яго ўстойлівасці", - гаворыцца ў паведамленні Еўразійскага банка развіцця.

***Telegraf.by.***

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Кветкі – да помнікаў айцам Беларускай Народнай Рэспублікі

**25 сакавіка беларуская грамадскасць у чарговы раз адзначыла 98-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У сталіцы Беларусі прайшло масавае шэсце, былі ўскладзеныя кветкі да помніка Янку Купалу.**

У гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі пакінулі значны след двое ўраджэнцаў Глыбоччыны: Вацлаў Ластоўскі і Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Вацлаў Ластоўскі, гісторык і этнограф, удзельнічаў у абвяшчэнні незалежнасці БНР, а ў снежні 1919-га ўзначаліў Раду міністраў БНР.

Клаўдзій Дуж-Душэўскі, архітэктар – аўтар бела-чырвона-белага сцяга. У восень 1919 — дыпламатычны прадстаўнік ураду БНР у дзяржавах Балтыі, дзяржаўны сакратар ва ўрадзе Ластоўскага.

Вацлаў Ластоўскі ўганараваны ў Глыбокім помнікам на Алеі Славы, а Клаўдзій Дуж-Душэўскі – мемарыяльнай шыльдай на доме №22 па вул. Горкага.



Глыбокае, вул. Горкага, 22. Бела-чырвоныя кветкі – да шыльды памяці Клаўдзія Дуж-Душэўскага.

Традыцыйна, штогод 25 сакавіка, глыбоцкія журналісты і краязнаўцы збіраюцца разам, каб ушанаваць памяць нашых беларускіх адраджэнцаў, пакласці кветкі да помнікаў, а таксама, апроч таго, на цвінтары Копцеўка ўскладаюць кветкі да помніка Альберту Бацяноўскаму, сябру падпольнай арганізацыі Саюз Беларускіх Патрыётаў, вязню ГУЛАГу.

# Беларусь заняла першае месца на тэрыторыі былога СССР па росце спажывецкіх цэн у лютым 2016 года

**Беларусь заняла першае месца на тэрыторыі былога СССР па росце спажывецкіх цэн у лютым 2016 года і другое — паводле вынікаў студзеня—лютага, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз звестак нацыянальных органаў статыстыкі.**

У лютым спажывецкія цэны ў краіне павялічыліся на 2,9%. Далей ідуць Казахстан (1,1%), Эстонія (0,7%), Расія (0,6%), Таджыкістан (0,5%), Азербайджан (0,4%), Грузія і Латвія (па 0,1%). У Кыргызстане цэны знізіліся на 0,2%, у Літве — на 0,3%, ва Украіне — на 0,4%, у Малдове — на 0,5%, у Арменіі — на 1,4%. Няма звестак па Туркменістане і Узбекістане. У непрызнаным Прыднястроўі, які мае ўласную фінансавую сістэму, цэны зменшыліся за месяц на 0,6%.

За першыя два месяцы гэтага года спажывецкія цэны ў найбольшай ступені выраслі ў Азербайджане (6,3%), Беларусі (4,8%) і Казахстане (2,5%). Гэты паказчык быў меншы ў Таджыкістане (1,9%), Расіі (1,6%), Грузіі (1%), Арменіі (0,8%), Эстоніі (0,6%), ва Украіне (0,5%) і ў Малдове (0,1%). Зніжэнне цэн адзначанае ў Кыргызстане (на 0,3%), Латвіі (на 0,5%) і Літве (0,7%). З Туркменістана і Узбекістана звестак няма. У Прыднястроўі цэны знізіліся на 0,4%.

У студзені 2016 года Беларусь з ростам цэн на 1,9% заняла трэцяе месца пасля Азербайджана (5,8%) і Арменіі (2,2%), апярэдзіўшы Таджыкістан (1,4%), Казахстан (1,3%), Расію (1%), Грузію, Украіну (па 0,9%) і Малдову (0,7%). Не змяніліся цэны ў Кыргызстане, зменшыліся — у Эстоніі (на 0,1%), Літве (на 0,3%) і Латвіі (на 0,6%).

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***

# Міністр: У Беларусі не будуць пераходзіць на абавязковую страхавую медыцыну

**У Беларусі не будуць пераходзіць на абавязковую страхавую медыцыну, заявіў у эфіры тэлеканала АНТ міністр аховы здароўя Васіль Жарко.**

«У нас ідзе рытмічнае фінансаванне галіны аховы здароўя. Усе аб'ёмы медыцынскай дапамогі пацыярджаюцца і аказваюцца, — сказаў Васіль Жарко. — А што такое страхавая медыцына? Гэта стварэнне дадатковых страхавых арганізацый, бюро або кампаній. Частка сродкаў з-за гэтага будзе сыходзіць. На сённяшні дзень мы яшчэ не гатовыя да страхавой мэдыцыны. Трэба развіваць добраахвотнае медыцынскае страхаванне».

Міністр адзначыў, што такі падыход дазволіць знізіць фінансавую нагрузку на ўстановы аховы здароўя і гэта будзе першым крокам у развіцці страхавой медыцыны.

***БелТА.***

# ПДВ аплацяць абаненты: з 1 красавіка даражэе сувязь і інтэрнэт

**З 1 красавіка стаўка ПДВ на паслугі электрасувязі вырасце з 20 да 25%. Гэта закране як сотавых аператараў, так і інтэрнэт-правайдараў. А аплачваць рост падатку прыйдзецца іх абанентам.**

Якая рэакцыя сотавых аператараў на змену стаўкі? "Белтэлеком", velcom і МТС проста паказалі факт павелічэння падатку ў сувязі з прыняццем нарматыўнага акту, не растлумачыўшы, як гэта ў выніку адаб'ецца на абанентах. Падрабязна расшыфраваў сваю пазіцыю толькі life:).

Як высветлілася, за сувязь беларусам усё ж прыйдзецца плаціць больш.

У velcom нагадалі, што не так даўно стаўка ПДВ у Беларусі была нулявы для паслуг сувязі насельніцтву:

*"Верагодна, дзяржава не асцерагаецца падвышэння падатку ў такім адчувальным сегменце, разумеючы, што цяперашні кошт за паслугі сувязі з'яўляецца адной з самых нізкіх у Еўропе і краінах СНД".*

***Зміцер Смірноў.***

# Трохгадовае дзіця патанула ў Лепельскім раёне

**Трагедыя адбылася на вадаёме 26 сакавіка ў 17.45, паведамілі БелТА ва УУС Віцебскага аблвыканкама.**

Трохгадовы хлопчык са сваім братам, застаўшыся на кароткі час без нагляду дарослых, зайшоў на тонкі лёд. Падчас гульні ён стаў прабіваць нагой лёд і праваліўся. Брат кінуўся за дапамогай да бацькі. Той выцягнуў дзіця з вады і паспрабаваў аказаць медыцынскую дапамогу. Аднак выратаваць жыццё хлопчыку не атрымалася. Па дарозе ў бальніцу маляня памерла.

***БелТА.***

# Што рабіць і хто вінаваты?

*Для пьянства есть такие поводы:*
*Поминки, праздник, встреча, проводы,*
*Крестины, свадьба и развод,*
*Мороз, охота, Новый год,*
*Выздоровленье, новоселье,*
*Печаль, раскаянье, веселье,*
*Успех, награда, новый чин*
*И просто пьянка – без причин!*
*Р.Бернс*



**З п'янствам заклікаюць змагацца, але свята ў народа не адбіраць.** *Фота svoboda.org*

**Дзяржава мае тры асноўныя функцыі: стварыць бяспечнае жыццё сваіх грамадзян, падтрымліваць іх матэрыяльнае становішча, гарантаваць іх духоўныя свабоды.**


**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Барацьбу з алкагалізмам, як адной са з'яў нашага жыцця, трэба весці не з п'янствам, таму што практыка даказала беспаспяховасць гэтых дзеянняў, а з прычынамі, якія п'янству робяць добрыя ўмовы. Навука абумоўлівае чатыры прычыны: страта сэнсу жыцця і сацыяльныя несправядлівасці; папушчальніцтва з боку эліт і дзяржавы; даступнасць у набыцці алкагольных напояў; запраграміраванасць праз СМІ і культуру.

Кажуць, што ў жыцці чалавека маюцца два важныя моманты: адзін, калі ты нарадзіўся, другі, калі ты зразумеў, для чаго ты з'явіўся на свет. Кожнаму Бог дае свой талент, наша задача – як мага хутчэй знайсці гэты талент і яго памножыць. Калі ты сумееш знайсці свой талент і зможаш яго скарыстаць у жыцці, ты шчаслівы чалавек, у цябе ёсць мэта твайго жыцця, цябе не будзе цягнуць на дурноты.

Калі ты мужчына, ты павінен навучыцца любіць, цярпець, пераадольваць, памыляцца і выпраўляць свае памылкі, быць добрым, адказным за свае ўчынкі, заставацца сабой, адным словам, умець БЫЦЬ. Ты павінен не любіць падман, хамства, тых людзей, якія не маюць свайго меркавання, калі людзі гвалцяць і забіваюць адзін аднаго. Калі ты змог выхаваць такі характар, то збіць цябе з правільнага шляху і далучыць да п'янства, наркотыкаў ніхто не зможа, бо гэта не ўваходзіць у тваю жыццёвую пазіцыю.

Наўрад ці знойдзецца ў свеце другая дзяржава, дзе быў бы такі доступ для набыцця алкагольных напояў. Па-першае, гэта вельмі танны тавар. Не буду расшыфроўваць, кожны ведае пра гэта. Другая зручнасць тое, што яго не трэба шукаць, амаль у кожным магазіне харчовых тавараў, буфетах, багацейшы асартымент напояў, час продажу не абмежаваны. У начны час паспяхова працуюць падпольныя пункты рэалізацыі з надбаўкай у цане.

Мы прынялі на 2001-2005 гады Першую Нацыянальную Праграму супраць алкагалізму, якую правалілі з трэскам. Другая такая ж праграма на 2006-2010 гады прадугледжвала кожны год скарачаць пладова-ягадныя віны на 10%, а ў 2010 годзе прыпыніць іх выпуск. А што выйшла на справе? Вытворчасць гэтых він павялічылася на 17% афіцыйна, а сапраўды сам Бог Бахус не ведае, бо ад віна не прасыхаў. Як быцццам бы была прынята і трэцяя Праграма, але ні ў адным выдавецтве надрукавана яна не была, ніколі не гаварылася пра яе выкананне, бо гэта не супадала з дзяржаўнай палітыкай і з рэальным становішчам узроўню алкагалізацыі насельніцтва, які рос як на дражджах. Таму мы маем тое, што маем.

Прафесар Уладзімір Жданаў падрабязна апавядае, як Міжнародная акадэмія цвярозасці ў саюзе з іншымі арганізацыямі паўтара года дабівалася прызнання любых напояў з утрыманнем больш 1,5% алкаголю алкагольнымі. Ва ўсім свеце любыя напоі мацнейшыя за 1,5 градуса лічацца алкагольнымі, і на іх распаўсюджваецца закон продажу алкаголю. Праз тры дні пасля таго, як Дзяржаўная Дума прыняла гэты закон, з'явіліся прадстаўнікі піўной мафіі, закупілі камітэты – і на наступны дзень у трох чытаннях да гэтага закона была прынята папраўка, дабаўлены ўсяго два словы: "Алкагольнымі вырабамі лічыць любыя вырабы мацнейшыя за 1,5% апроч піва". Такім чынам, піва ад 4 да 11% перастала быць алкаголем. Вы скажаце, што гэта ў Расіі, але ж у нас агульная гандлёвая прастора. Вось дзякуючы ўладам маем тое, што маем. Вось і п'юць нашы хлопчыкі і дзяўчаты гэтую атруту.

Часта можна пачуць такое, чаго ж вы хочаце, наш народ ад веку піў. Не ўвесь народ, ды піў, а не п'янстваваў. У 1959 годзе пасля дэмабілізацыі з арміі давялося працаваць брыгадзірам у Сіцькоўскім калгасе Мікалаеўскага сельсавета. За год працы не было ні аднаго выпадку, каб хто ў п'яным выглядзе прыйшоў на працу, а тым больш, арганізаваў п'янку на працоўным месцы. Усё гэта стала нашым набыткам. Гэтаму мы вучыліся, а праўдзівей, нас вучылі паступова. Розныя мерапрыемствы заканчваліся застоллем.

Сцвярджаць, што ў нас не вядзецца барацьба з алкагалізмам, было б зусім няправільна. Справа ў другім плане: мы вядзем барацьбу з алкаголікамі, і не так ужо дрэнна. Але калі нам удаецца кагосьці выцягнуць з гэтага балота, то на яго месца прыходзяць іншыя, таму што прычыны, якія парАджаюць і садзейнічаюць п'янству, застаюцца. Мы не аднойчы спрабавалі знішчыць прычыны, але няўдала, не давялі справу да канца, таму што немагчыма змагацца з п'янствам і адначасова папаўняць бюджэт.

Зноў вымушаны звярнуцца да артыкула прафесара Уладзіміра Жданава, у якім ён расказвае пра тое, як ён у складзе дэлегацыі ў 1988 годзе прысутнічаў на Кангрэсе Міжнароднай арганізацыі гуманізму і цвярозасці, які праходзіў у Швецыі ў г. Эстэрсундзе. Яны прыехалі на суткі раней і вырашылі пазнаёміцца з горадам. Заўважылі, што ні ў адным магазіне не знайшлі ні гарэлкі, ні піва, ні іншых алкагольных напояў, ні цыгарэт. І калі спыталі ў прадаўшчыцы, дзе можна купіць піва, яна нават неяк перапужалася, замахала рукамі і сказала: "No alcohol, no". Тады гід-швед ім растлумачыў, што за горадам маецца спецыялізаваны магазін, які працуе тры гадзіны ў суткі. Жадаючыя купіць алкаголь і цыгарэты прыязджаюць туды з усёй акругі за пакупкай. Але і там алкаголь адпускаюць толькі па пашпарту, заносяць у камп'ютар і апавяшчаюць паліцыю – чакайце, дурань прыедзе, г. зн., чакайце праблем. Бутэлька гарэлкі там ужо тады каштавала 24 долары, цыгарэты – 8 долараў.

На Кангрэсе выступала міністр працы Швецыі, маладая белакурая жанчына, якая апавядала, што з 16 членаў урада 8 з'яўляюцца членамі арганізацыі цвярозасці. Сказала, што ў Швецыі маецца праблема беспрацоўя, але яна на 99% звязана з тым, што беспрацоўныя ў большасці алкаголікі, якія не хочуць працаваць і бязбедна жывуць на дзяржаўныя грошы па беспрацоўю. Калі хто і спрабуе ўладкавацца на працу, то праз некалькі дзён павінен яе пакінуць па прычыне нізкага прафесіяналізму і дрэннага фізічнага стану. Ужо тады Швецыя планавала ў 2010 годзе закрыць продаж алкаголю.

У Нарвегіі з 2000 года забаронены продаж тытуню. Нарвегія 25 гадоў трымае першае месца ў свеце па зімовых відах спорту: біятлон, лыжныя гонкі, хакей, хоць там пражывае ўсяго 4 мільёны насельніцтва. Не адстае ад Нарвегіі і яе суседка Швецыя. Мы інфармаваныя і па пытаннях жыццёвага ўзроўню людзей у гэтых краінах. Вось што такое цвярозыя людзі, вось чаго яны могуць дасягнуць сваёй цвярозай працай!

Тады ўзнікае пытанне, а чым мы горшыя за нарвежцаў або шведаў? Нават пры царскай уладзе ды тых 19 гадоў пад Польшчай мужчыны не п'янствавалі. Усе глядзелі, каб кожны дзень быў пражыты з толкам, тым больш, не прыносіў непрыемнасці. Сёння патрэбна прадуманая праграма мерапрыемстваў як аднаразавых, так і штодзённых, а галоўнае – выкананне гэтых мерапрыемстваў усімі грамадзянамі.

Не на пустым месцы ў народзе з'явілася думка, што п'яны чалавек дурны. Працэс алкагольнага адурнення ў розных людзей працякае па-рознаму. У адных у першую чаргу разбураецца патылічная частка мозгу, вестыбулярны апарат – іх гайдае, нібыта на хвалі. У іншых разбураецца маральны цэнтр, пра гэта кажуць: "Гэта ён зрабіў таму, што быў п'яны, цвярозы не зрабіў бы ніколі". Усё зразумела: чалавек пад уздзеяннем алкаголю становіцца вар'ятам. У яго клеткі мозгу, якія кантралююць паводзіны, знішчаюцца алкаголем, парушаецца памяць. Медыцына ведае, што вельмі п'яны чалавек, калі назаўтра прачнецца, не можа ўспомніць, дзе ён быў, з кім і колькі выпіў, што ён і каму абяцаў. У яго замест клетак, якія павінны былі запомніць учарашні дзень, рубец у мазгах.

Уладзімір Высоцкі ў 42 гады загінуў ад алкаголю, тытуню і наркатычных атрауленняў. Ён гэтую праблему ведаў. У адной са сваіх песень пісаў: *"Ой, где я был вчера – не найду днём с огнём, только помню, что стены с обоями".* Усе клетачкі знішчаў алкаголь, а дзве цудам засталіся і зафіксавалі сцяну і шпалеры.

У 1972 годзе студыя "Кіеўнавучфільм" зрабіла здымкі навукова-папулярнага кінафільма аб тым, як паводзяць сябе аднамесячныя парасяты. Ад 10 розных свінаматак узялі па адным парасяці, размясцілі ў асобны загон. Парасяты тры дні высвятлялі адносіны, а потым збіліся ў статак і пачалі жыць, як у прыродзе. Выдзелілася не самае вялікае, але самае разумнае і шустрае парася ў важакі, якое кіравала паводзінамі ў статку. Калі прынеслі ім карыта з ядой, то першым стаў есці важак, а потым па чарзе кожнае парася. Праз нейкі час вылілі ў карыта бутэльку піва і перамяшалі з ядой. Першым падышоў да карыта важак: нюхаўнюхаў, доўга глядзеў па баках, лоб моршчыў, штосьці не падабалася, але "голад не цётка" – наеўся стравы, наеўся і ўвесь статак. Што стала тварыцца з парасятамі! Ад піва фармальна здурнелі. Піск, візгат, бойка. Два дні ў іх праходзіла піўное пахмелле. На трэці дзень залізалі раны і збіліся зноў у статак.

Праз два дні вырашылі паўтарыць эксперымент: у карыта з ядой вылілі бутэльку піва, размяшалі. Падышоў важак, нюхаўнюхаў, па баках глядзеў, лоб моршчыў. А потым узяў пятачком – раз! – і перавярнуў карыта ўверх дном! Эксперыментатары думалі, што гэта выпадкова. Эксперымент паўтарылі некалькі разоў. Але вынік быў адзін – важак пераваротваў карыта ўверх дном. Нават аднамесячнаму парасяці з малюсенькімі мазгамі і таму зразумела, што трэба раз і назаўсёды перавярнуць яго раз і назаўсёды, пакуль усе парасяты ў гэтым карыце не згінулі!

Мы адцягваем алкагольнікаў, п'яніц ад карыта, а на вольнае месца моладзь з піўнымі кубкамі да гэтага карыта рвецца напралом. Што ж тады рабіць? Перавярнуць яго ўверх дном назаўсёды! Гэта павінна быць зразумела не толькі месячнаму парасяці!

